Гродна
№10 (492),
13 мая 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# Касцёл Беларусі. Якім яго бачыць моладзь?









З 29 красавіка па 1 мая ў Гродне праходзіла III Сустрэча моладзі Беларусі. Хлопцы і дзяўчаты з розных куткоў краіны мелі магчымасць пазнаць адзін аднаго, абмяняцца сведчаннем веры, узаемна ўзбагаціўшыся. Рэдакцыя "Слова Жыцця" прапанавала маладым людзям прадставіць сябе і свае дыяцэзіі, адзначыўшы, чым яны найбольш ганарацца.

• працяг на с. 4–5



# Святарства – гэта не прафесія, а жыццё

Напярэдадні юбілею сваіх святарскіх пасвячэнняў ксяндзы, якія нясуць паслугу ў Гродзенскай дыяцэзіі, разважаюць пра сутнасць душпастырскай працы, складаныя моманты ў нялёгкім служэнні, а таксама пра неабходнасць нястомнага імкнення да дасканасці.

• працяг на с. 4–6

"Зарадзіце батарэю свайго сэрца і заставайцеся на сувязі з Хрыстом!". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**VII ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Ян 17, 11b–19**

Езус узняў вочы свае да неба і маліўся такімі словамі: "Ойча святы, захавай іх у імені Тваім, якое Ты даў Мне, каб яны былі адно, як і Мы. Калі Я быў з імі, Я захоўваў іх у імені Тваім, якое Ты даў Мне. Я збярог, і ніхто з іх не загінуў, апроч сына пагібелі, каб збылося Пісанне. А цяпер іду да Цябе і кажу гэта ў свеце, каб яны мелі ў сабе поўную Маю радасць. Я даў ім слова Твае, і свет узненавідзеў іх, бо яны не са свету, як і Я не са свету. Не прашу, каб Ты ўзяў іх са свету, але каб захаваў іх ад злога. Яны не са свету, як і Я не са свету. Асвяці іх у праўдзе. Слова Тваё – гэта праўда. Як Ты паслаў Мяне ў свет, так і Я паслаў іх у свет. І за іх Я пасвячаю сябе, каб і яны былі асвечаныя ў праўдзе".

### ХРЫСТОС – НАШ ФУНДАМЕНТ

Пан Езус прапанаваў сваім вучням такую еднасць, прыкладам якой з'яўляецца Яго сувязь з Усемагутным: "Ойча, учыні, каб усе былі адно, як Ты – ува Мне, а Я – у Табе, каб і яны былі ў Нас" (параўн.: Ян 17, 21). Толькі такое адзінства "акупляецца", толькі яно вечнае. Тым, хто злучае нас у сабе і вакол сябе, з'яўляецца Хрыстос. Таму, устанаўліваючы сувязь з людзьмі, спытайма сябе, што нас яднае: Бог ці штосьці іншае.

Не варта будаваць сувязі на слабым падмурку. Няхай іх фундаментам будзе і назаўсёды застаецца наш Збаўца. Дадзеная сувязь раней ці пазней перародзіцца ў прыгожае сяброўства з Богам. А няма на свеце нічога больш трывалага, чым такое сяброўства.

**Як выглядае мая сувязь з Богам?**

**Ці здольны я будаваць добрыя адносіны з іншым чалавекам?**

**НЯДЗЕЛЯ СПАСЛАННЯ СВЯТОГА ДУХА**
**Ян 7, 37–39**

У апошні вялікі дзень свята Езус стаў і, заклікаючы, сказаў: "Хто прагне, няхай прыйдзе да Мяне і п'е. Хто верыць у Мяне, у таго, як сказана ў Пісанні, з улоння пацякуць рэкі вады жывой". Гэта сказаў Ён пра Духа, якога павінны былі прыняць тыя, хто паверыў у Яго: бо яшчэ не было Святога Духа, таму што Езус яшчэ не ўславіўся.

### ВЫСПЕЦЬ ДА ХРЫСЦІЯНСТВА

Невыпадкова ўваскрослы Хрыстос даў Апосталам Святога Духа менавіта ў Вячэрніку. Для вучняў Езуса гэта было вельмі сімвалічнае месца: там Месія абмыў ім ногі, накарміў сваім Найсвяцейшым Целам, удзяліў святарскае пасвячэнне. Там Ён прадказаў спасланне Духа Суцяшыцеля. Такім чынам, усё самае прыгожае і каштоўнае для хрысціяніна ўзяло пачатак менавіта ў Вячэрніку.

Заахвочаныя прыкладам вучняў Езуса, якія аднадушна трывалі на малітве, просім Святога Духа, каб ахінуў нас сваёй асаблівай апекай, каб мы ў цяпле Яго любові выспявалі да хрысціянства і былі здольнымі прысвяціць сябе Хрысту. Просім таксама аб Божым Духу для тых, хто яшчэ не атрымаў Яго ці не можа зразумець Яго значэнне.

**Ці малюся я да Святога Духа?**

**Ці здольны ахвяраваць сябе дзеля іншых?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Наш Касцёл прыгожы!

*Вясновае надвор'е, якое сонечнымі промнямі весяліць сэрца чалавека, спрыяе таксама таму, што разам з прыродай ажываюць нашы парафіяльныя супольнасці. Вернікі збіраюцца ў святынях, капліцах ці ля прыдарожных крыжоў, просячы Марыю аб асаблівым заступніцтве. Дзеці ўпершыню прымаюць у свае сэрцы Цела Пана Езуса. Моладзь з радасцю і энтузіязмам адкрываецца на семікротныя дары Святога Духа ў сакраманце канфірмацыі. Святары ў чарговы раз перажываюць гадавіны святарскіх пасвячэнняў, узгадваючы дзень сваёй прыміцыі, калі ўпершыню, няраз няўпэўненым і дрыжачым голасам, прамаўлялі словы кансэкрацыі...*

Сёлетні май стаў асаблівым часам таксама для сталіцы нашай дыяцэзіі – Гродна. Каля 2-юх тысяч поўных запалу і веры маладых людзей з розных куткоў краіны прыбылі сюды, каб супольна даць сведчанне, што Езус з'яўляецца іх Панам, што яны прагнуць ісці за Хрыстом. Гэта было сапраўднае свята маладосці! Моладзь разам малілася і спявала, дзялілася сабой, вучылася сяброўству, здабывала новы вопыт.

Тут, у каралеўскім горадзе Стэфана Баторыя, адзначаным прысутнасцю св. каралевіча Казіміра і св. Максімільяна Кольбэ, біскупы і святары прыгадалі маладым людзям аб адказнасці, якая спачывае на іх плячах, бо менавіта яны з'яўляюцца фундаментам Касцёла. Маладзёны цешыліся атмасферай адзінства, паколькі, хоць і адрозніваюцца адзін ад аднаго, разам з'яўляюцца непадзельнай будучыняй Касцёла, а таксама ўсведамлялі, што ад іх, насамрэч, шмат чаго залежыць.

Гледзячы на такую шматлікую прысутнасць маладых людзей, якіх яднае супольная вера і любоў да Бога, усведамляем, што наш Касцёл прыгожы. Сэрца напаўняецца радасцю ад таго, што ў Беларусі ёсць столькі моладзі, якая без Хрыста не здолее жыць!

Трэба адзначыць, што сённяшні свет прапануе маладым людзям вельмі шмат. Пастаянны тэхнічны і цывілізацыйны прагрэс патрабуе нястомнага прыстасавання да ўсяго новага. Па гэтай прычыне моладзь часта мае праблемы з пошукам сябе ў гэтым свеце. Таму дарослыя людзі, "укараненыя ў Хрысце і моцныя ў веры" (параўн.: Кал 2, 7), павінны памятаць пра даручаную ім задачу – быць прыкладам і падтрымкай для моладзі – паколькі менавіта ў іх руках знаходзіцца лёс падрастаючага пакалення.

**Дарагія Чытачы!**

Прыгожы марыйны месяц, які мы цяпер перажываем, з'яўляецца цудоўнай нагодай для таго, каб узгадаць, што кожны чалавек у меншай ці большай ступені з'яўляецца настаўнікам для іншых людзей – праз сваю паставу і ўчынкі. Давайце пакажам моладзі Езуса, які на самой справе з'яўляецца фундаментам нашага жыцця. Калі гэтага не зробім, існуе вялікая рызыка, што падрастаючае пакаленне не захопіцца дарогай, якая многа патрабуе і сэнсу якой ім ніхто не адкрыў...

## "НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ"

# СВ. РЫТА: ЗАСТУПНІЦА Ў СКЛАДАНЫХ СІТУАЦЫЯХ



*У іканаграфіі св. Рыта прадстаўлена ў манаскім уборы – чорным хабіце і белым вэлюме – з шыпамі на лбе. Яе атрыбутамі з'яўляюцца двое дзяцей, распяцце, інжыр, пчолы, ружа.*

**З'яўляецца адной з самых папулярных святых на працягу некалькіх стагоддзяў. Людзі моляцца да яе ў самых розных інтэнцыях: падлетак просіць, каб бацькі зноў сталі колішнімі; студэнтка – аб паспяховай здачы экзамена; выпускнік – аб добрай працы; жанчына, якой здрадзіў муж, – аб сілах, каб прабачыць і жыць далей... Святая прыцягвае церпячых, прыгнечаных цяжкімі жыццёвымі клопатамі, хворых, адзінокіх, усіх тых, хто з людскога пункту гледжання знаходзіцца ў складанай сітуацыі.**

**КАШТОЎНАЯ ЖАМЧУЖЫНА**

Рыта нарадзілася каля 1380 года ў Рокапарэна, недалёка ад Кашы (Італія). Была адзінай дачкой у сям'і горцаў. Хоць дзяўчына адчувала пакліканне да манаскага жыцця, бацькі вырашылі, што яна павінна выйсці замуж за Паола Манчыні.

Гэты шлюб цяжка назваць удалым. Муж Рыты быў імпульсіўным і жорсткім чалавекам, аднак жанчына заўсёды была цярплівай да яго. Нарадзіла дваіх сыноў. Але была вымушана гадаваць дзяцей адна, таму што Манчыні ў хуткім часе забілі члены мафіі. Убачыўшы, што сыны, падобным чынам, як іх бацька, збочваюць на дрэнную дарогу, прасіла Бога, каб лепш забраў іх з гэтага свету, чым тыя стануць забойцамі. Хлопцы памерлі падчас эпідэміі.

Пасля смерці сыноў Рыта рэалізавала сваё жаданне ўступіць у кляштар аўгустынак у Кашы. Жанчына не ўмела ні чытаць, ні пісаць, таму ёй даручалі вельмі простыя паслугі, якія тая ахвотна выконвала. Падчас працы Рыта часта цалавала пярсцёнак – знак сваёй сувязі з Езусам Абраннікам.

Шмат малілася. Вымаліла сабе дар стыгматаў. На галаве манахіня адчувала рану ад аднаго з шыпоў з вянка Езуса, што нагадвала ёй пра Мукі Збаўцы. Гэтая містычная з'ява працягвалася 15 гадоў. Рыта таксама прасіла Бога, каб рану не бачыў ніхто навокал, і была пачутая.

Памерла ад туберкулёзу 22 мая 1457 года ў Кашы. Беатыфікавана папам Урбанам VIII у 1628 годзе. Кананізавана 24 мая 1900 года папам Львом XIII. Пантыфік назваў святую "каштоўнай жамчужынай Умбрыі".

На сёння толькі ў Італіі налічваецца па меншай меры 300 касцёлаў і капліц пад тытулам св. Рыты. Сярод іх ёсць прыкладна 50 парафій і каля 10-ці санктуарыяў. Абраз святой таксама можна ўбачыць у многіх святынях. Найбольш вядомы санктуарый, цэнтр культу, знаходзіцца ў Кашы. Цела св. Рыты, захаванае ад раскладання, спачывае там у шкляной труне.

**ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. РЫТЫ?**

Постаць святой нагадвае аб адным з найбольшых прагненняў людскога сэрца – супакоі. Сваім сціплым і ціхім жыццём яна заахвочвае нас увайсці на дарогу пакоры і паслухмянасці.

**ЦІКАВА!**

Пры магіле св. Рыты неаднаразова адбываліся надзвычайныя рэчы. Калі праз некалькі гадоў у касцёле адбыўся раптоўны пажар, нягледзячы на тое, што ўся святыня была зруйнавана, кіпарысавая труна з целам святой засталася некранутай.

**З ВУСНАЎ СВЯТОЙ**

"Любі і змагайся!".

**ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН**

Касцёл узгадвае св. Рыту 22 мая.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Містэрыі Гервятаў



**Фотаальбом пад такой назвай пабачыў свет у сталічным выдавецтве “Тэхналогія”. Выданне, якое з'яўляецца плёнам працы майстра фатаграфічнага мастацтва Валерыя Вядрэнкі, змяшчае серыю фотаздымкаў, навеяных ўражаннямі ад скульптуры, архітэктуры і духу касцёла Найсвяцейшай Тройцы.**

**– Спадар Валерый, распавядзіце, калі ласка, якім чынам нарадзілася серыя фотаздымкаў “Містэрыі Гервятаў”?**

– У 2008 годзе я выпадкова натрапіў у інтэрнэце на фотаздымкі скульптур Апосталаў, якія размешчаны на тэрыторыі гервяцкага касцёла. Яны мяне вельмі ўразілі сваёй выразнасцю і прыгажосцю. Перад вачамі нават узнікла ясная карціна: восень, туман, скульптуры і касцёл у далечыні... Я вырашыў паехаць у Гервяты і сфатаграфаваць гэтых Апосталаў.

Першая паездка ў мястэчка адбылася ў сакавіку 2011 года. Памятаю, што калі прыбыў на месца і адчыніў дзверы ў машыне, то, як кажуць, мову адняло. Спадзяваўся ўбачыць што заўгодна, але не тую карціну, якая паўстала ў мяне перад вачамі. З фотаапаратам у руках я прахадзіў 4 гадзіны. Быў цудоўны дзень: сонца, завіруха, дождж, сонца, снег, зноў сонца. Я рабіў фотаздымкі цудоўнага касцёла, а пра скульптуры Апосталаў, дзеля якіх першапачаткова ехаў, успомніў толькі тады, калі ўжо трэба было вяртацца. І ўсё роўна не атрымалася іх сфатаграфаваць, бо яны ўстаноўлены такім чынам, што сонца ўвесь час за іх спінамі, а твары – у цені. Тады я разлічыў, што здымаць скульптуры можна толькі ў сярэдзіне лета на захадзе, калі святло будзе падаць належным чынам і твары будуць выразна бачныя.

Увечары я прыехаў дадому, закінуў зняты матэрыял у камп'ютар і быў страшна расчараваны, таму што ён не адпавядаў тым адчуванням і эмоцыям, якія касцёл выклікаў у мяне на самой справе. Я зразумеў, што святыню ў Гервятах нельга прадставіць адным ці некалькімі кадрамі. Яна падобна скульптуры, якую трэба здымаць з розных бакоў, у розныя поры году, у розны час сутак. Толькі тады чалавек, які будзе глядзець на фотаздымкі, атрымае найбольш поўнае і глыбокае ўяўленне пра святыню.

Каб зрабіць фотавыявы гервяцкага касцёла, мне спатрэбілася 5 паездак у мястэчка. Але не было так, што я з самага пачатку прыдумаў зрабіць асобную серыю фотаздымкаў. Яна склалася сама сабою з таго матэрыялу, які я адздымаў. Першапачаткова серыя называлася “Апосталы Гервятаў” і складалася з 3-ох частак: дакументальныя фотаздымкі рэстаўрацыі і вонкавага аблічча касцёла ў розныя поры года; фасады і інтэр'еры, стылізаваныя пад фотагравюры канца XIX – пачатку XX стагоддзя; фотапластычныя кампазіцыі на тэмы Евангелля. Калі гэтая выстава экспанавалася ў Мінску ў Чырвоным касцёле, я раптам заўважыў, што не хапае 7-8 манахромных работ. Я іх зрабіў і пасля паказаў увесь праект у галерэі TUT.BY пад назвай “Містэрыі Гервятаў”.



*Касцёл Найсвяцейшай Тройцы – адзін з лепшых узораў неагатычнай архітэктуры пачатку XX стагоддзя*

**– Фотаальбом таксама дапоўнены 4-ай часткай, прысвечанай святкаванню Вялікадня. Чым было абумоўлена яе ўзнікненне?**

– Калі ў мяне ўзнікла жаданне аб'яднаць увесь матэрыял пра Гервяты пад адной вокладкай і пачалася праца над выданнем фотаальбома, я адчуў, што ў ім нечага не хапае. На фотаздымках была адлюстравана толькі архітэктура, і не ставала гісторыі парафіяльнай супольнасці. Таму я вырашаў увекавечыць на фота мясцовых вернікаў, якія прычыніліся да аднаўлення святыні. Паехаў у Гервяты на Вялікдзень і цягам 2-ух дзён проста фатаграфаваў гэтых людзей, рабіў рэпартаж са свята без усякай пастаноўкі. Такім чынам у альбоме з'явілася 4-ая частка, як своеасаблівая даніна памяці мясцовым парафіянам. Яна, можна сказаць, ажывіла альбом, паколькі адлюстроўвае вясновае аднаўленне і прасякнута надзеяй, што пакуль жывыя людзі, жывая і вера.

**– Падчас прэзентацыі альбома ў Мінску Вы дэманстравалі фотафільм “Апосталы Гервятаў”. З якой мэтай была раэлізавана гэтая ідэя?**

– Раней мне думалася, што ў жыцці я буду займацца кіно. Атрымаў адукацыю, здымаў. Так склалася, што часы савецкай перабудовы перакрыжавалі ўсе мае планы, але кіношнік ува мне не памёр, працягваў жыць унутры. Гэта, напэўна, паўплывала на тое, што я вырашыў дапоўніць “Містэрыі Гервятаў” фотафільмам. Ён ніякім чынам не супярэчыць ні аднайменнай выставе, ні фотаальбому, а з'яўляецца яшчэ адной формай выказвання.

У аснову відэарадка “Апосталы Гервятаў” пакладзены фотаздымкі, якія ёсць у альбоме. Але асаблівасць і важнасць гэтага фотафільма ў тым, што я агучыў выявы, надаў ім дынаміку і тыя эмоцыі, якіх не хапае на плоскаснай выяве. Я знайшоў адпаведную фанаграму – і фотаздымкі ажылі, напоўніліся тымі адчуваннямі, якія мяне суправаджалі падчас працы над гэтай серыяй.

**– У адным са сваіх інтэрв'ю Вы сказалі, што чалавек на працягу жыцця не змяняецца, а праяўляецца. Якім чынам фатаграфія паўплывала на Вас?**

– Фатаграфія вельмі крута змяніла маё жыццё, нягледзячы на тое, што я пачаў ёй займацца даволі позна – калі мне было 50 гадоў. У большасці людзей на гэты ўзрост прыпадае пік кар'еры, мая ж, выходзіць, толькі пачыналася. Гэта звязана са з'яўленнем лічбавай фатаграфіі, паколькі ў звычайнай плёнкавай я не мог знайсці і выказаць сваё “кінематаграфічнае” бачанне. Дагэтуль займаўся і жывапісам, і графікай, і скульптурай, а калі з'явілася новая тэхналогія вырабу фотаздымкаў, зразумеў, што ўсё жыццё яе чакаў. Я пачаў займацца мантажнай фатаграфіяй, якая дазваляе ствараць работы на стыку фатаграфіі і выяўленчага мастацтва. Свой метад стварэння работ называю фотапластыкай. Аднак захапленне мантажнымі кампазіцыямі не перашкаджае працаваць і ў галіне традыцыйнай фатаграфіі.

Увогуле, у мяне дастаткова складаная біяграфія, я перажыў перыяд сур'ёзнага творчага крызісу. І калі б не лічбавая фатаграфія, хутчэй за ўсё мяне б ужо не было на гэтым свеце...



*Фотамантажныя працы з серыі “Містэрыі Гервятаў” выкананы ў традыцыйнай аўтарскай тэхніцы – фотапластыцы*

*Кінга Красіцкая*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Кс. абп Габар Пінтэр*



*Калі Езус жыве ў нас, мы павінны заставацца ў Ім: “Заставайцеся ўва Мне, а Я – у вас” (Ян 15, 4). І тут увага: Езус так хоча і так вырашыў – застацца ў нас. І Ён ніколі не змяняе сваіх рашэнняў. Цяпер ад нас залежыць, застанёмся ў Ім ці не, дазволім Яму жыць у нас ці не.*

*Але што азначае “заставацца ў Езусе”? Гэта значыць трываць у веры, якая ўмацоўваецца праз пастаяннае і ўважлівае слуханне Божага слова. Гэта значыць выконваць патрабаванні веры, а ўсе яны змяшчаюцца ў запаведзі любові да Бога і бліжніх. Калі мы застанёмся ў Хрысце, Ён будзе жыць у нас і стане тым, чым з'яўляецца лаза для галінак: жыццёвым прынцыпам, натхненнем, прычынай, сэнсам жыцця, нашых выбараў. [...] Калі застанёмся ў Езусе, Ён сам зробіць так, каб у нашых сэрцах і з нашых сэрцаў вырас плод братэрскай любові; але калі не застанёмся ў Ім, жыццё паступова сапсуецца нашым жа эгаізмам.*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Да хрысціянскай супольнасці належаць розныя асобы: мужчыны і жанчыны, свецкія і духоўныя, жанатыя і самотныя, здаровыя і хворыя, людзі розных спецыяльнасцей і г. д. Аднак усе яны атрымліваюць адзіную духоўную ежу і ўзрастаюць у дасканаласці дзякуючы Божаму слову, малітве, удзелу ў сакрамантах, у першую чаргу ў Эўхарыстыі, і г. д. Усё гэта азначае, што ў хрысціянстве існуе адно правіла для ўсіх: той самы “гаршчок”, калі так можна выказацца. Кожны бярэ з яго столькі, колькі яму патрэбна, але субстанцыя ежы застаецца той самай. Гэтай ежай з'яўляецца Евангелле, вучэнне Касцёла, сакраманты, дабрачыннасць. Пры гэтым кожны мае свой шлях, якім павінен ісці, паддаючыся кіраўніцтву Святога Духа.*

### *Кс. бп Юзаф Станеўскі*



*Дарагія маладыя сябры! Не бойцеся быць мудрымі будаўнікамі свайго дома і шчасця, не бойцеся будаваць на скале – гэта значыць на Хрысце, на Пятры. [...] Вы распачалі будаванне свайго дома з Пятром нашых часоў – св. папам Янам Паўлам II. Нам спадарожнічаў папа Бенедыкт XVI, зараз папа Францішак асабліва блізка да Вашых чаканняў і мар. Памятайце, што кожны Папа, кожны біскуп, святар, манахіня і манах, Вашы бацькі, людзі мудрыя не выступяць супраць Вас, не будуць супрацьстаяць Вашаму трываламу будаванню дома на скале. Больш за тое, кожны, бачачы гэта будаванне, дапаможа Вам.*

*Фрагменты гамілій, прамоўленых іерархамі на III Сустрэчы моладзі Беларусі ў Гродне, 29.04–01.05.2018*




◆ Кангрэгацыя каталіцкай адукацыі выдала новую інструкцыю па выкладанні кананічнага права ў царкоўных навучальных установах “Навучанне кананічнага права ў святле рэформы шлюбнага працэсу”. Яна дазваляе засноўваць дэпартаменты кананічнага права на тэалагічных факультэтах, кафедры кананічнага права на юрыдычных факультэтах у каталіцкіх універсітэтах, а таксама спрыяць вывучэнню кананічнага права на першым цыкле багаслоўя. Галоўная мэта – падтрымаць і паглыбіць юрыдычную культуру ў Касцёле. Навучальныя ўстановы павінны прыстасавацца да патрабаванняў новай інструкцыі ўжо з пачатку 2019–2020 н.г.

◆ У Касцёле абвешчана новая бласлаўлёная. Ганна Хшаноўская нарадзілася ў 1902 годзе ў Польшчы. Атрымаўшы дыплом медсястры, стала інструктарам па сацыяльным доглядзе. Была галоўным рэдактарам часопіса “Польская медсястра” і актыўным членам Каталіцкай асацыяцыі польскіх медсясцёр. У ваенны час дапамагала бежанцам, перасяленцам, сіротам. На працягу некалькіх гадоў хварэла на рак, але не пакідала сваёй місіі. Нават калі была прыкавана хваробай да ложка, усё роўна працягвала працаваць па тэлефоне. Адышла ў вечнасць 29 красавіка 1973 года ў арэоле святасці. Цырымонія беатыфікацыі адбылася ў Кракаве. Яе ўзначаліў кардынал Анджэла Амата, прэфект Кангрэгацыі па справах святых.

◆ Урачыстасць падзякі за 50 гадоў Неакатэхуменальнай дарогі адбылася ў Рыме. З гэтай нагоды на сустрэчу з папам Францішкам прыбыло каля 150-ці тысяч членаў гэтай супольнасці са 134-ох краін свету. Святы Айцец выразіў удзячнасць членам неакатэхумената за іх місійную дзейнасць. Напрыканцы Понтыфік уручыў крыжы 34-ом святарам, якія вырушаць з місіяй “ad gentes” па ўсяму свету. Разаслаў таксама групы місіянераў у некалькі дзесяткаў парафій Вечнага горада.

◆ У дыяцэзіі Макурдзі ў Нігерыі былі расстраляны ўдзельнікі ранішняй Эўхарыстыі. Загінулі 2 святары і 17 вернікаў. За нападамі стаяць пастухі з племені фулані, якія становяцца ўсё больш радыкальнымі. Многія з іх заключаюць дамовы з ісламістамі, што выклікае сур’ёзную трывогу Касцёла. Мясцовыя іерархі адзначаюць, што хрысціяне адчуваюць сябе падманутымі дзяржавай, якая не можа гарантаваць жыхарам мінімальную бяспеку, і таму патрабуюць адстаўкі прэзідэнта Махамаду Бухары.

◆ 33 новых рэкрутаў Швейцарскай гвардыі з 13-ці розных кантонаў Швейцарыі склалі ў Ватыкане прысягу. Ад імя Папы яе прынялі абп Георг Генсвайн, прэфект Папскага дома, і кс. Паола Борджа з Дзяржаўнага сакратарыяту Апостальскай Сталіцы. Швейцарская гвардыя з 1506 года ахоўвае Понтыфіка і Ватыкан. Спецыяльна навучаныя гвардзейцы спадарожнічаюць Папе ў замежных падарожжах як яго асабістая ахова.

credo.pro; gosc.pl; niedziela.pl

# Касцёл Беларусі. Якім яго бачыць моладзь?

● працяг са с. 1

## ГРОДЗЕНСКАЯ ДЫЯЦЭЗІЯ

**МЫ**
адкрытыя
актыўныя
не саромеемся выказваць сваю веру

### ГАНАРЫМСЯ

**Найбольшая шчыльнасць католікаў.**
Гродзенская дыяцэзія з’яўляецца найменшай па займаемай плошчы, але ў той жа час тут пражывае найбольш (пасля Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі) прадстаўнікоў каталіцкага веравызнання. У параўнанні з архідыяцэзіяй, католікі знаходзяцца тут тэрытарыяльна бліжэй адзін ад аднаго.

**Найбольш святароў.**
У Гродзенскай дыяцэзіі служаць больш за 200 святароў.

**Вядомыя прозвішчы, цесна звязаныя з землямі Гродзенскай дыяцэзіі:**
св. Максімільян Марыя Кольбэ – заснавальнік апостальскага таварыства “Рыцарства Беззаганнай”, св. Казімір – каралевіч, кс. Генрых Глябовіч, Мар’яна Бярнацкая і 11 сясцёр-назарэтанак з Навагрудка – бласлаўлёныя мучанікі ІІ Сусветнай вайны.

**Дыяцэзіяльны інтэрнэт-партал grodnensis.by.**
Гродзенская дыяцэзія мае ўласную вэб-старонку, якая штодня абнаўляецца. Моладзі падабаецца, што на сайце яна можа задаць любое цікавячае пытанне святару, знайсці патрэбную інфармацыю адносна раскладу св. Імшаў у парафіях або будучых важных у дыяцэзіі падзей.

**Душпастырства студэнцкай і працоўнай моладзі Гродна “OPEN”.**



Супольнасць маладых людзей з’яўляецца адной з самых вялікіх і актыўных у Беларусі, да якой можа далучыцца любы жадаючы. Удзельнікі душпастырства адзначаюць, што адчуваюць сябе адной сям’ёй.

**Катэхетычныя курсы.**
У дыяцэзіі існуе выдатная магчымасць удасканаліць свае рэлігійныя веды. Многія маладыя людзі прызнаюцца, што неаднойчы задумваліся над скарыстаннем з такой прапановы, а некаторыя ўжо навучаюцца на курсах, з задавальненнем заахвочваючы іншых.

**Рэкалекцыйны дом у Росі.**
Харызматычныя рэкалекцыі – своеасаблівая візітная картка мясцовасці. Яны з’яўляюцца аднымі з найбольш папулярных у Беларусі. Каб пачуць вядомых ва ўсім свеце рэкалекцыяністаў, у роскі санктуарый штогод прыбывае некалькі тысяч чалавек.

**“Маленькая швейцарыя” ў Гервятах.**
Дыяцэзіяльная моладзь называе гэтае месца абавязковым для наведвання: “Тут знаходзіцца адзін з найбольш прыгожых касцёлаў у дыяцэзіі, які ўваходзіць у тройку самых высокіх касцёлаў Беларусі”. Але прыгажосцю здзіўляе не толькі сама святыня, але і навакольны інтэр’ер – дзівосныя расліны і дрэвы, фігуры Апосталаў, анёлаў, крыжы. Усё гэта разам нагадвае паменшаную ў памерах “зялёную” краіну Швейцарыю.

**Семінарыйны гурт “AVE”.**
Шматлікая моладзь сочыць за творчасцю любімага гурта. Дарэчы, ён з’яўляецца першым падобным, у склад якога ўваходзяць навучэнцы духоўнай семінарыі, у Беларусі.

## ВІЦЕБСКАЯ ДЫЯЦЭЗІЯ

**МЫ**
жыццярадасныя
аптымістычная
цікаўныя

### ГАНАРЫМСЯ

**Самая маладая дыяцэзія.**
Віцебская дыяцэзія створана ў 1999 годзе.

**Самы малады ардынарый.**



Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч мае 46 гадоў. Як адзначае моладзь, іерарх вельмі блізкі ім па духу, любіць спяваць і іграць на гітары, ходзіць у пілігрымкі.

**Вядомыя прозвішчы, цесна звязаныя з землямі Віцебскай дыяцэзіі:**
бп Язафат Кунцэвіч – святы мучанік, бласлаўлёныя кс. Юрый Кашыра і кс. Антоній Ляшчэвіч – пакутнікі ІІ Сусветнай вайны.

**Марыйныя санктуарыі – у Браславе, Шуміліне, Удзеле.**
Абраз Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе – апошні з 7-мі каранаваных абразоў у санктуарыях Беларусі. Штогод моладзь крочыць туды ў пілігрымках.

**Малітоўна-фармацыйныя сустрэчы “Вінаграднік”.**
Пра “духоўнае аздараўленне” ў аршанскай парафіі, якое арганізоўвае а. Аляксандр Жарнасек МІС, ведаюць ва ўсёй Беларусі. Моладзь часта супраўджае сустрэчы спевам. Як адзначаюць маладыя людзі, хто хоць аднойчы пабываў тут, абавязкова хоча вярнуцца і звычайна плануе наступную сустрэчу.

**Турыстычны і паломніцкі комплекс у Мосары.**
Так як праз вёску праходзіць шмат экскурсійных маршрутаў, шмат хто з моладзі там бываў і таму з захапленнем распавядае, што бачыў. На прылеглай да мясцовага касцёла тэрыторыі размешчаны шэраг турыстычных і рэлігійных аб’ектаў, многія з якіх – адзіныя ў сваім родзе ў Беларусі. Напрыклад, першы ў краіне прыкасцёльны вялікі парк са штучнымі вадаёмамі, фантанамі і сцяжынкамі, масткамі, каменнымі аркамі, альпійскімі горкамі, рэдкімі відамі раслін і кветак, шматлікімі статуямі і скульптурамі, капліцамі. Менавіта тут з’явіўся першы ў Беларусі (па даце пабудовы) помнік св. Яну Паўлу ІІ, дзейнічае адзіны ў Беларусі антыалкагольны музей. Усё гэта было створана намаганнямі спачылага кс. Юазаса Булькі, імя якога на слыху не толькі ў дыяцэзіян, але і ў вернікаў, якія пражываюць далёка за межамі Віцебшчыны.

**Газета “Каталіцкі веснік”.**
Моладзь адзначае, што вельмі любіць чытаць яе. Найчасцей карыстаецца з электроннай версіі друкаванага выдання catholicnews.by.

**Святар-кветкавод з Росіцы.**
Як распавядаюць маладыя людзі, у ваколіцах касцёла кс. Чэслаў Курэчка разам з парафіянамі вырошчвае больш за 200 розных відаў кветак і саджанцаў. На свята 8 Сакавіка ксёндз па традыцыі адорвае цюльпанамі мясцовых жанчын. Акрамя таго, святар ладзіць святы кветак і буслоў. Арганізоўвае іх, каб падзяліцца радасцю і прыгажосцю Радзімы, каб сабраць людзей і памаліцца разам за краіну, сем’і ў інтэнцыі любові і згоды.

● працяг са с. 1

## 20 гадоў святарскай паслугі



Кс. Андрэй Радзевіч

*Нарадзіўся 12.11.1973 г. Паходзіць з парафіі Радунь. Закончыў Вышэйшую духоўную семінарыю ў Гродне. Святарскія пасвячэнні атрымаў 30.05.1998 г. з рук біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча. У 1998–1999 гг. служыў вікарыем парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. У 1999–2002 гг. вучыўся ў Люблінскім каталіцкім універсітэце імя св. Яна Паўла ІІ на аддзяленні маральнай тэалогіі. У 2002–2003 гг. займаў пасаду архіварыя дыяцэзіяльнай курыі ў Гродне, выкладаў маральную тэалогію ў Гродзенскай ВДС. У 2003–2010 гг. з’яўляўся духоўным айцом семінарыі. У 2010–2011 гг. служыў рэзідэнтам парафіі Адамавічы, у 2011–2016 гг. – рэзідэнтам парафіі Рось. З 2016 г. з’яўляецца пробашчам парафій Бярозаўка і Мінойты.*

**ТРЫВАННЕ Ў СВЯТАРСТВЕ – ГЭТА РАДАСЦЬ**

Думаю, што самае важнае ў жыцці – адкрыць тое, да чаго цябе заклікае Бог. Калі чалавек распазнае волю Пана і верна яе выконвае, рэалізуючы сваё жыццёвае пакліканне, тады ён сапраўды шчаслівы.

Часам ад людзей можна пачуць, што хтосьці выбраў прафесію святара. Я заўсёды падкрэсліваю, што святарства – гэта не прафесія, а жыццё. Ніхто ж не гаворыць, што працуе мужам ці бацькам. Ён проста з’яўляецца мужам, бацькам. Святар таксама проста з’яўляецца святаром. Не некалькі гадзін у суткі, але на працягу ўсяго свайго жыцця, днём і ноччу, таму што павінен быць для людзей і з людзьмі.

Асаблівае задавальненне мне як святару прыносіць адчуванне, што я неабходны вернікам. Бачу гэта, калі людзі прыходзяць са сваімі радасцямі і праблемамі. Вялікае шчасце, калі з здольны ім дапамагчы.

Маючы за плячамі 20 гадоў святарскай паслугі, прагну падзякаваць Хрысту за тое, што выбраў мяне для гэтай паслугі, за Яго кіраванне мной і наддзеленую моц, а таксама за ўсіх людзей, якіх Стварыцель паставіў на маім святарскім шляху. Упэўнена магу сказаць, што кожны чалавек нейкім чынам паўплываў на маё жыццё, быў для мяне дарам Бога. Вядома, святар вялікую частку сябе аддае людзям, аднак і яны, у сваю чаргу, таксама многа даюць святару. Ведаю, як шмат людзей падтрымліваюць ксяндзоў сваёй малітвай. Гэта ўтварае сапраўдную супольнасць і моц Касцёла.

## Мінска-Магілёўская архідыяцэзія

**Мы** вясёлыя авантурныя творчыя

## Ганарымся

**Найбольш біскупаў.**
Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіяй апекуюцца 3 іерархі: Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, дапаможныя біскупы Юрый Касабуцкі і Аляксандр Яшэўскі SDB.

**Беларускамоўны Касцёл.**
Моладзь адзначае, што ў парафіях архідыяцэзіі св. Імшы цэлебруюцца на беларускай (за некаторым выключэннем) мове. Гэта робіць Касцёл блізкім для маладога пакалення, "ясным і зразумелым".

**Вядомыя прозвішчы, цесна звязаныя з землямі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі:**
Эдвард Вайніловіч – пабудаваў у Мінску Чырвоны касцёл, Магдалена Радзівіл – друкавала катэхізіс па-беларуску, бласлаўлёныя абп Юрый Матулевіч і абп Тэафілюс Матулёніс – рэлігійныя дзеячы.

**Нацыянальны санктуарый Маці Божай у Будславе.**
Адзіны, што мае статут нацыянальнага, знаходзіцца на тэрыторыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Тут узвышаецца адзін з найпрыгажэйшых касцёлаў краіны. На галоўныя ўрачыстасці ў Будславе збіраюцца вернікі з усёй краіны. Нярэдка ў санктуарый ладзяцца пілігрымкі з парафій архідыяцэзіі. У большасці выпадкаў маладыя людзі такім чынам і "пазнаёміліся" з Будславам.

**Музычная майстэрня ў Івянцы.**



Моладзь чакае яе з нецярпеннем кожнае лета. Збіраецца там, каб прыняць удзел у адмысловых майстар-класах і атрымаць духоўнае і музычнае натхненне на бягучы год. Як адзначаюць маладзёны, для многіх з іх гэта вельмі карысны досвед, які яны затым выкарыстоўваюць у жыцці, працы. Тут таксама можна развіць свае музычныя густы, тэатральныя таленты, сцэнаграфічнае майстэрства і інш.

**Фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа".**
Штогод на музычным форуме ў Магілёве збіраюцца харавыя калектывы з розных краін свету. Моладзь прыемна ўражвае, што фестываль становіцца для іх усё больш цікавым. У мінулым годзе на пляцоўцы форуму выступалі такія вядомыя маладзёвыя гурты, як "Laudans" і "Рыбы".

**Святар-пілот з Мінска.**
З аповеду маладых людзей, кс. кан. Уладзіслаў Завальнюк – першы каталіцкі святар у Беларусі, які атрымаў пасведчанне пілота-аматара грамадзянскай авіяцыі. Дзякуючы яго намаганням, зараз можна замовіць верталёт для пілігрымкі ў Будслаў і такім чынам здзейсніць паломніцтва "па паветры".

## Пінская дыяцэзія

**Мы** смелыя не скаваныя рамкамі гібкія

## Ганарымся

**Найстарэйшая дыяцэзія.**
Пінская дыяцэзія заснавана ў 1925 годзе *(фармальна існавала да 1946 года, была аднолена ў межах Брэсцкай і Гомельскай абласцей з цэнтрам у Пінску ў 1991 годзе – **даведка "Слова Жыцця"**)*.

**Вядомыя прозвішчы, цесна звязаныя з землямі Пінскай дыяцэзіі:**
Андрэй Баболя – святы мучанік, езуіт, Казімір Свёнтэк – першы ў Беларусі кардынал, Зыгмунт Лазінскі – біскуп, які спрыяў увядзенню беларускай мовы ў касцёле.

**Самы старажытны ў Беларусі касцёл.**
Знаходзіцца ў Ішкалдзі. Пабудаваны больш за паўтысячы гадоў таму. Як распавядае моладзь, касцёл з'яўляецца ўнікальным яшчэ і таму, што на працягу ўсяго свайго існавання ні разу не быў значна пашкоджаны, з-за чаго яму ўдалося захаваць амаль што першапачатковы выгляд.

**Цудатворныя абразы Маці Божай – у Лагішыне, Брэсце, Юравічах.**
Першыя два ўвенчаны папскімі каронамі.

**Самая працяглая пілігрымка.**



З Пінскай дыяцэзіі, а менавіта з Баранавічаў, вырушае даўжэйшая па часе перадолення і ў той жа час самая вялікая па колькасці ўдзельнікаў пілігрымка ў Нацыянальны санктуарый Маці Божай у Будславе. Паломнікі праходзяць за 9 дзён шлях працягласцю каля 300 км. Як адзначаюць маладыя людзі, для многіх з іх гэтая пілігрымка становіцца самай чаканай падзеяй лета.

**Першая семінарыя на тэрыторыі Беларусі.**
Міждыяцэзіяльная (сёння) духоўная семінарыя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску распачала сваю дзейнасць у 1925 годзе. Цяперашнія навучэнцы дзеляцца, што яны першымі з семінарыстаў у Беларусі стварылі свой акаўнт у instagram, а таксама youtube-канал, дзе адзін з клерыкаў вядзе відэаблог з жыцця альматэр. Амаль кожныя выхадныя для жадаючых (пры ўзгадненні з адміністрацыяй) існуе магчымасць правесці ўік-энд у семінарыі. Асаблівым знакам навучэнцы лічаць тое, што літаральна нядаўна Святы Айцец Францішак перадаў ім сваё бласлаўленне.

**Першая ў Беларусі свецкая каталіцкая навучальная ўстанова.**
Катэхетычны каледж ім. Зыгмунта Лазінскага дзейнічае ў Баранавічах з 2009 года. Там рыхтуюць спецыялістаў у галіне тэалогіі і катэхетыкі, сямейнага кансультавання. Некаторыя маладыя людзі падзяліліся сведчаннем, што неаднаразова прымалі ўдзел у адукацыйных семінарах і сімпозіумах на базе каледжа.

**Фестываль "Дастукацца да нябёсаў".**
Мерапрыемства прыцягвае ўвагу шматлікіх аматараў хрысціянскай музыкі. З года ў год фестываль набірае ўсё большыя абароты. У ім прымаюць удзел гурты з усёй Беларусі, з'язджаюцца прыхільнікі творчасці музыкантаў з розных куткоў краіны.

**Як бачым, моладзь краіны сапраўды ганарыцца сваім Касцёлам.**
**Цешыць той факт, што маладыя людзі могуць адзначыць яго моцныя і прывабныя бакі. Значыцца, яны цікавяцца тым, што адбываецца ў супольнасці вернікаў, імкнуцца скарыстаць са шматлікіх заахвочванняў і прапаноў.**
**А гэта, безумоўна, з'яўляецца бясспрэчным доказам таго, што будучыня Касцёла Беларусі ў надзейных руках!**
**На III Сустрэчу моладзі Беларусі прыбыло каля 250 маладых людзей з Віцебскай і Пінскай дыяцэзій, каля 300 – з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і больш за 1300 – з Гродзенскай дыяцэзіі.**

*Выкарыстаны фота catholic.by, catholicnews.by*
*Ангеліна Пакачайла*

## 30 гадоў святарскай паслугі



**Кс. Цэзарый Міх**

*Нарадзіўся 27.10.1961 г. Паходзіць з Белай Падляскі (Польшча). Закончыў Папскі тэалагічны факультэт у Вроцлаве. Святарскія пасвячэнні атрымаў 21.05.1988 г. з рук кардынала Генрыха Гульбіновіча. Наступныя 3 гады служыў у Польшчы. У 1991 г. прыбыў у Гродзенскую дыяцэзію. У 1991–1996 гг. дапамагаў у душпастырскай працы пробашчу парафіі Прывалка. З 1999 г. з'яўляецца пробашчам парафіі Скідзель. Займаўся там будаўніцтвам касцёла. Святыня кансэкравана ў 2004 г. пад тытулам св. Юзафа рамесніка. З 1993 г. – натарыус касцёльнага суда ў Гродне, у 2001–2005 гг. – віцэ-афіцыял, з 2005 г. – афіцыял.*

### НЕ БЕЗ ЦЯЖКАСЦЕЙ

Як і кожная жыццёвая справа, святарства таксама палягае на нялёгкіх заданнях. Для мяне адным з такіх няпростых момантаў з'яўляецца паслуга споведзі. Цяжкасці заключаюцца ў тым, што шмат людзей прыступаюць да сакраманту пакаяння не толькі затым, каб ксёндз іх выслухаў, але і каб даў нейкую добрую параду адносна пэўнай жыццёвай праблемы. Гэта патрабуе вялікай ступені адказнасці і абавязацельства за пэнітэнта. Ускладнае сітуацыю і тое, што святар абмежаваны таямніцай споведзі, таму не можа звярнуцца за падказкай для вырашэння праблемы да кагосьці іншага. У сувязі з гэтым святар часта можа адчуваць псіхічнае абцяжаранне.

Яшчэ адным няпростым заданнем у святарстве, на мой погляд, з'яўляюцца публічныя выступленні. Для ксяндза гэта заўсёды невялікі стрэс. Хочацца як найлепш пераказаць людзям важныя рэчы, бо яны базуюцца на Божым слове, таму з'яўляюцца вызначальнымі ў жыцці. Хочацца, каб яны глыбока пранікалі ў душу. Але не заўсёды ўсё можа атрымлівацца, як ты хацеў і планаваў. Таму кожны раз малюся перад прамаўленнем казанняў, каб Святы Дух напаўняў мяне сваім святлом, а сэрцы людзей адкрываў на Божую праўду. Стараюся маліцца таксама за пэнітэнтаў у іх цяжкіх сітуацыях.

Аглядаючыся на 30 гадоў свайго святарства, дзякую Богу за тое, што столькі часу мог быць прыладай у Яго руках. Як мне здаецца, гэта вялікая ласка прызнання і даверу Стварыцеля.

● працяг на с. 6




**Catholic.by**

**Ларэтанская літанія ў Беларусі дапоўнена новым заклікам**

***Рашэнне дадаць у тэкст літаніі на беларускай мове заклік "Каралева Беларусі, маліся за нас" было прынята на пасяджэнні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.***

*Рашэнне епіскапату з'яўляецца выражэннем набожнасці мясцовых вернікаў. У першую чаргу, гэта датычыць ушанавання абраза Маці Божай Бялыніцкай, каранаванага папскімі каронамі 20 верасня 1761 года.*

*Тэкст Ларэтанскай літаніі на лацінскай мове з'яўляецца ўзорным пры перакладзе на іншыя мовы. Аднак некаторыя супольнасці атрымліваюць дазвол на тое, каб дадаваць да яго дадатковыя заклікі, якія часам становяцца агульнапрынятымі ва ўсім Касцёле. Такім чынам, з адабрэння Ватыкана з мая бягучага года вернікі Беларусі дадаюць у літаніі новы зварот да Маці Божай пасля заклiку "Каралева супакою".*




**"Ружанец на ўзбярэжжы"**

***Гэтая малітоўная акцыя груптавалася на польскім "Ружанцы да межаў". У ёй прынялі ўдзел некалькі дзесяткаў тысяч католікаў Вялікабрытаніі.***

*Ініцыятарамі выступілі свецкія людзі. Але акцыя атрымала падтрымку біскупаў і нават самога папы Францішка, які ўпэўніў удзельнікаў малітвы ў сваёй духоўнай падтрымцы.*

*Ружанец адгаворвалі ў больш за 400-ах розных месцах. Тыя, хто не мог дабрацца на ўзбярэжжа, маліліся на берагах рэк ці каналаў, а таксама на мастах. Людзі прасілі аб адраджэнні веры і аб культуры жыцця. Асаблівым кантэкстам малітвы была таксама трагедыя Альфі Эванса (двухгадовага хлопчыка, якога па рашэнні суда адключылі ад апаратаў жыццязабеспячэння).*




**Ствараецца фільм "Папа"**

***У карціне папу на пенсіі Бенедыкта XVI сыграе Энтані Хопкінс, а Святога Айца Францішка – Джонатан Прайс.***

*Сюжэт распачынаецца абраннем на Апостальскі Пасад Бенедыкта XVI. Аднак не заканчваецца момантам яго адрачэння, а паказвае таксама выбар папы Францішка і адносіны паміж гэтымі Пантыфікамі.*

*Рэжысёрам фільма з'яўляецца бразільскі Фернанду Мейрэліш з Бразіліі – аўтар, між іншым, стужкі "Горад Бога" (2002 г.). Фільм будзе даступны для прагляду ў онлайн-патокавым агенцтве "Netflix", якое таксама з'яўляецца яго вытворцам. Дата прэм'еры пакуль не пададзена.*

# Першая святая Камунія ў часы нямецкай акупацыі



**Трывае найпрыгажэйшы месяц у годзе. Ва ўсіх парафіях ідзе падрыхтоўка да Першай св. Камуніі, паколькі для дзяцей, іх бацькоў, бабуль і дзядуль гэта непаўторныя хвіліны, а для вернікаў, прысутных у касцёле на ўрачыстасці, – нагода, каб нанова перажыць у памяці асабістыя хвіліны, звязаныя з дадзеным сакрамантам. У сённяшнім нумары газеты "Слова Жыцця" перадаём успаміны Крысціны Жулега, якая ўпершыню прыняла Цела Пана Езуса ў сваё сэрца падчас ІІ Сусветнай вайны.**

## БОЖЫ ЦУД, ШТО МЫ НЕ ЗАГІНУЛІ

Я паходжу з хрысціянскай сям'і, дзе стараліся будаваць жыццё згодна з запаведдзю "Любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёю душою тваёю, і ўсім розумам тваім, а бліжняга твайго, як самога сябе". Я расла, бачачы, што гэта не пустыя словы, бо мы вельмі любілі адзін аднаго і заўжды дапамагалі ў складаныя хвіліны.

Добра памятаю, як вайна на сваіх чорных агідных крылах забрала нашу радасць, наша дзяцінства і маладосць. Давялося шмат перацярпець: не было вады, святла, апалу, а зімы былі вельмі марознымі і снежнымі. Акупанты бамбардзіравалі і абстрэльвалі дамы, знішчалі сем'і. Гэта цуд, што нам удалося выстрываць. Перажылі ўсё толькі дзякуючы Богу, Анёлам і святым.

Мы жылі ў цэнтры горада Гродна на сённяшнім Тэлеграфным перавулку. Там, дзе цяпер знаходзіцца помнік Элізе Ажэшка, стаялі 4 дамы: 2 драўляныя і 2 цагляныя. У іх знаходзіліся дзіцячы садок, крама, кравецкае і шавецкае атэлье.



*Памятны фотаздымак, зроблены ў дзень Першай св. Камуніі 9 ліпеня 1944 г.*

Гэтыя будынкі збамбардзіравалі, а з нашым нічога не здарылася, хоць знаходзіўся на адлегласці менш за 100 метраў. Калі ляцелі бомбы, бабуля з мамай узялі Біблію і малітоўнік, усе




разам сталі на калені і пачалі маліцца. Стала цямней, чым ноччу, хоць была раніца. Мы чулі выбухі, людскія крыкі. Думалі, што загінем, таму дарослыя прыкрылі нас сваімі целамі і так, малячыся, мы ляжалі, ажно пакуль не сціх шум і агонь. Усе выжылі. А ў суседніх дамах загінула 17 чалавек.

## САПРАЎДНЫ СВЯТЫЯ СЁСТРЫ

Упершыню я прыняла Цела Езуса ў сваё сэрца ва ўзросце 10-ці гадоў. Гэта быў 1944 год. Катэхізацыяй і падрыхтоўкай дзяцей да Першай споведзі і св. Камуніі займаліся сёстры назарэтанкі, якія жылі тады пры пабрыгіцкім касцёле. На навуку, што доўжылася каля 2-ух месяцаў, мы прыходзілі ў фарны касцёл. Колькі было груп дзяцей, якія рыхтаваліся да прыняцця святых сакрамантаў, добра не памятаю, але дакладна больш 4-ох. Тады не было тэлевізараў, камп'ютараў і іншага абсталявання. Як дапаможны матэрыял сёстры выкарыстоўвалі каляровыя плакаты, на якіх былі прадстаўлены сюжэты з Біблії.

Сястру, што праводзіла заняткі ў нашай групы, звалі Алена. Гэта быў сапраўдны анёл! Яна прыгожа іграла на гітары, спявала, вучыла нас рэлігійным песням. Успамінаецца адзін выпадак... Аднойчы, калі мы былі на катэхезе, у святыню ўвайшлі нямецкія салдаты. Сястра пабляднела, бо вельмі моцна спалохалася: невядома было, навошта яны прыйшлі. Немцы праверылі плакаты, падрыхтаваныя да заняткаў, а потым адзін з іх спытаўся, ці ўмеем спяваць. Сястра кіўнула галавой і звярнулася да нас са словамі: "Дзеткі, калі ласка, заспявайце для гэтых мужчын". Мы зацягнулі песню "Чэсць Марыі", а пасля – "Сэрца Тваё, Езу". Салдаты паслухалі і пайшлі, нікому не ўчыніўшы крыўды.

Хадзілі таксама на заняткі ў пабрыгіцкі касцёл, дзе сёстры вучылі нас, як аздабляць алтар, якія кветкі і дзе трэба ставіць, каб святыня выглядала прыгожа і эстэтычна. Вучылі нас вязаць кручком і на спіцах, працаваць у агародзе. Звярталі ўвагу, што кожная градка павінна быць роўная, дагледжаная, бо тады "Пан Бог убачыць, што праца зроблена з душой, благаславіць і ўсё будзе добра расці і прыносіць шчодры плён". Назарэтанкі нястомна паўтаралі: "Памятайце, дзеці, што Бог вас бачыць і чуе, а Анёл-ахоўнік глядзіць на вас і цешыцца, калі добра працуеце і старанна моліцеся". І самі працавалі як пчолкі з раніцы да захаду сонца.

Падчас акупацыі многія пакутавалі ад недаядання. Па меры магчымасці сёстры стараліся дапамагчы, каб мы, малыя дзеці, не памерлі з голаду. У нашай сям'і было 3-ое дзяцей. Мама, удава, сама нас выхоўвала. Голад пастаянна праследаваў: я не памятала смаку яек ці смятаны. Калі дома з'яўлялся цукар, гэта было сапраўдным святам. Мама магла прыгатаваць суп толькі раз на тыдзень, бо не было з чаго. У сясцёр назарэтанак таксама не было ўсяго ў дастатку. Елі, мабыць, раз ці два на дзень, аднак, калі мы прыходзілі на катэхезу, заўсёды стараліся нечым падзяліцца.

## НАЙВАЖНЕЙШЫ ДЗЕНЬ

Да ўрачыстасці Першай св. Камуніі трэба было не толькі падрыхтавацца духоўна, але і знайсці адпаведны ўбор. У той час не многія з нас мелі белыя сукенкі ці касцюмы. Сёстры зрабілі ў касцёле яб'яву, просячы парафіян пазычыць святочнае ўбранне першакамунійным дзецям. Вернікі ахвотна прыйшлі на дапамогу, таму мы ўсе ў гэты важны дзень былі прыгожа апранутыя, што бачна на маім памятным фотаздымку.

Хачу таксама адзначыць, што дарога ад дома да фарнага касцёла, дзе мела адбыцца ўрачыстасць, была вельмі цяжкай. На ўсіх цэнтральных вуліцах горада было шмат танкаў, гармат, грузавікоў, салдат. Усюды дзяжурылі патруль, таму мусілі хавацца па надворках, каб ніхто нас не бачыў. У пэўны момант немцы заўважылі, што ідзе групка апранутых у белае дзяцей разам з бацькамі. Спыталіся, куды накіроўваемся, і дазволілі прайсці ў святыню.

Урачыстасць адбылася 9 ліпеня. Вядома, што яна не была такой пышнай, як сёння. Аднак нашы бацькі пастараліся і аздобілі святыню кветкамі, зрабілі прыгожыя банты. Усё выглядала вельмі сціпла і, разам з тым, чароўна і кранальна. Канешне, не было шмат гасцей, ніякага застолля і падарункаў. Мама і бабуля павіншавалі мяне і пацалавалі. А ад с. Алены і ксяндза я атрымала на памяць шкаплерык і абразік, на якім Пан Езус сядзіць пад дрэвам і прытуляе да сябе дзяцей. Найважнейшым падарункам у гэты дзень для кожнага з нас быў Найсвяцейшы Сакрамант, які прынялі ў свае сэрцы, бо, калі б прыйшлося паміраць, нашыя душы былі б гатовыя да сустрэчы з Богам.

Цікава, што разам з намі да Першай св. Камуніі прыступалі дзеці з савецкіх сем'яў, якія ў 1939 годзе пераехалі ў Гродна з Расіі. Гэта былі часы, калі польскую інтэлігенцыю вывозілі ў Сібір. Расіяне на ўласныя вочы бачылі, як жывуць палякі, што яны сумленныя і высакародныя. Па іх прыкладзе яны зразумелі, што трэба будаваць сваю будучыню з Богам, таму таксама ахрысцілі сваіх дзяцей і пачалі хадзіць у касцёл.

## ЧАЛАВЕК БЕЗ ВЕРЫ ХОДЗІЦЬ У ЦЕМРЫ

Сёння я бязмежна ўдзячная тым, хто выхоўваў і ўзмацняў маю духоўнасць. Таксама і для іншых людзей прашу аб узрастанні Божага святла ў сэрцы, у сям'і. Упэўнена, што толькі на фундаменце веры чалавек можа развівацца, а душа – прыносіць добры эстэтычны і інтэлектуальны плён. Мяне здзіўляе, як можна страціць веру ці не старацца яе здабыць.

Жыві згодна з Божымі запаведзямі і заўсёды будзеш вольны і радасны! Бо хто з Богам, той за парогам, няверуючы ж чалавек блукае ў цемры.

*Натавала Кінга Красіцкая*

• працяг са с. 5

## 40 гадоў святарскай паслугі



**Кс. прэлат Антоній Ханько**

*Нарадзіўся 13.06.1949 г. Паходзіць з парафіі Жалудок. Закончыў Рыжскую духоўную семінарыю (Латвія). Святарскія пасвячэнні атрымаў 28.05.1978 г. з рук кардынала Юльяна Вайводса. Да 1992 г. з'яўляўся вікарыем парафіі Жалудок, абслугоўваў парафіі Васілішкі, Новы Двор, Ішчолна. У 1992–2017 гг. – канцлер курыі Гродзенскай дыяцэзіі, у 2011–2013 гг. – генеральны вікарый. З 1992 г. – пробашч парафіі пабернардынскага касцёла ў Гродне.*

### СВЯТАР – ПРЫКЛАД ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ

Кожны, хто ступае на святарскі шлях, прагне быць добрым ксяндзом. Аднак такая пазіцыя патрабуе пастаяннага ўдасканалення: не існуе канчатковага прыпынку. Інакш, трэба заўсёды над гэтым працаваць.

Мне здаецца, каб быць добрым святаром, патрэбна, у першую чаргу, быць добрым чалавекам. А асновы гэтаму закладаюцца з малых гадоў: спачатку варта быць добрым сынам, вучнем, сябрам... Вядома, каб добра несці святарскую паслугу, трэба выконваць яе згодна з касцёльным правам і літургічнымі прадпісаннямі, быць паслухмяным біскупу, набожным, умеркаваным. Неабходна штодня адгаворваць Брэвіярый. Малітва дае вельмі вялікую сілу святару: суцяшае ў цяжкія хвіліны, робіць яго больш спакойным і шчаслівым, нягледзячы на розныя складанасці, якія могуць напаткаць у жыцці.

Душпастырская дзейнасць таксама патрабуе разумення: ксёндз павінен адчуваць людзей, не быць эгаістычным, але ахвярным і адданым. Заўважаю, як маладыя святары на пачатку свайго служэння хочуць паднесці Хрысту ўвесь свет. Хоць гэта і высакародны намер, ажыццявіць яго, на жаль, не атрымаецца. Чалавек – усяго толькі стварэнне Бога, такое яму не па сілах. Аднак прыкладаць да гэтага найбольшыя намаганні варта.

Я б раіў маладым святарам жыць і працаваць паміж сабой згодна. Гэта складнік поспеху ў будаванні Божага Валадарства на зямлі. Неабходна ўсведамляць, што ўсе мы служым дзеля адной вялікай місіі збаўлення чалавецтва. Таму павінны быць прыкладам для людзей, павінны першымі імкнуцца да святасці, да якой пакліканы кожны чалавек.

***Рэдакцыя "Слова Жыцця" віншуе ксяндзоў з нагоды юбілею святарскіх пасвячэнняў і жадае ім багатага плёну на ніве Пана!***

*Ангеліна Пакачайла*

## НАВІНЫ



### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ МАЦІ

У першую нядзелю мая ў Гродзенскай дыяцэзіі адзначаецца Дзень маці. Па традыцыі ў гэты дзень з Гродна ўжо ў 13-ты раз вырушыла пешая пілігрымка ў санктуарый Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы (дэканат Гродна-захад). Маці, бацькі, сыны і дочкі выйшлі ў дарогу, каб праз цяжкасці і малітву падзякаваць за сваіх матуль, якія далі ім жыццё. У 9-ты раз вырушыла другая пілігрымка маці з Ашмян у санктуарый Маці Божай Суцяшальніцы Засмучаных у Барунах (дэканат Ашмяны). Мамы дзякавалі за свае сужэнствы і за дзяцей, прасілі для іх патрэбных ласкаў, а маладыя дзяўчаты маліліся аб шчаслівым замужжы.

### ПРЫЗНАЧЭННІ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч узвёў у годнасць ганаровых канонікаў катэдральнага капітула Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Казіміра 8 святароў: кс. прэлата Юрыя Лявінскага, выкладчыка Гродзенскай ВДС, кс. Аляксандра Мацкевіча, канцлера гродзенскай курыі, кс. Валерыя Быкоўскага, пробашча парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Яна Непамука ў Вялікіх Эйсмантах (дэканат Вялікая Бераставіца), кс. Віктара Мыслюка, пробашча парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе (дэканат Масты), кс. Рамана Катлімоўскага, шматгадовага выкладчыка Гродзенскай ВДС, які зараз служыць у Радамскай дыяцэзіі ў Польшчы, кс. прэлата Лешэка Дамагалу, шматгадовага пробашча парафіі і кусташа санктуарыя ў Капцёўцы (дэканат Гродна-захад), які зараз служыць у Келецкай дыяцэзіі ў Польшчы, кс. Андрэя Садоўскага, шматгадовага эканома Гродзенскай ВДС, які зараз служыць у Беластоцкай архідыяцэзіі ў Польшчы, кс. Юзафа Ашкеловіча, святара, які пабудаваў святыні ў Паляцкішках (дэканат Воранава) і Анжадаве (дэканат Ашмяны), зараз служыць у Віленскай архідыяцэзіі ў Літве.

### ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"



Пры садзеянні Нацыянальнага "Карытас" у парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні прайшоў трэнінг на тэму фінансавай граматнасці "Спланый сваю будучыню". Практычнымі парадамі з удзельнікамі семінара падзяліўся Ігар Мікульчык – член міжведамаснага каардынацыйнага савета пры Савеце Міністраў і Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь па павышэнні фінансавай адукаванасці насельніцтва.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч асвяціў касцёл у Свіслачы (дэканат Вялікая Бераставіца). • Новыя алтар і табернакль у касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Вярэйках (дэканат Ваўкавыск) асвяціў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. • Дэлегацыя піярскай моладзі з Беларусі (прадстаўнікі з парафій Шчучын і Ліда) на чале з а. Аляксандрам Махначом SP прыняла ўдзел у Правінцыяльным сінодзе маладых, які праходзіў у Варшаве (Польшча). • Першыя арганізацыйныя сустрэчы валанцёраў Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці адбыліся ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

---

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку**
выказваем выразы шчырага спачування і жалю ў сувязі з адыходам у дом Пана любімага бацькі Вацлава.

*Парафіяне са Студзенікаў*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру**
ў сувязі са смерцю брата выказваем словы шчырага спачування і жалю. Няхай Бог дасць Вам сілы, каб перажыць боль страты, а бязмежны смутак няхай у хуткім часе саступіць месца добрай памяці аб памерлым.

*Парафіяльны хор з касцёла св. Міхала Арханёла у Смаргоні*

---

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**13 мая 1948 г.** – кс. Валяр'ян Голяк, *проб. Ашмяны;*
**18 мая 1987 г.** – кс. прэлат Казімір Арлоўскі, *проб. Адамавічы;*
**26 мая 1951 г.** – кс. Ян Рудзіньскі, *проб. Адэльск.*

## АНОНСЫ

### VIII ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ ПРОЙДЗЕ Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемствы адбудзецца 2 чэрвеня на тэрыторыі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (мікраraён Паўднёвы) пад дэвізам "Будзь дзіцём Бога!".**

Арганізатары рыхтуюць цікавую насычаную праграму (забавы, гульні, конкурсы), а найперш малітву, Эўхарыстыю, якую ўзначаліць біскуп. Да распрацоўкі плана сустрэчы заахвочваюцца ўсе жадаючыя.
Тым, хто хацеў бы прадставіць тэатральную сцэнку, спеў на сцэне або мае іншыя прапановы, якія маглі б узбагаціць мерапрыемства, прапануецца папярэдне скантактавацца з арганізатарамі.
На сустрэчу запрашаюцца дзеці з Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама з іншых куткоў Беларусі, каб разам у малітве і забаве добра правесці час. Колькасць удзельнікаў не абмежаваная. Арганізатары забяспечваюць кожнага харчаваннем на працягу дня.

*Аб сваім удзеле неабходна паведаміць да 26 мая кс. Юрыю Марціновічу, арганізатару і адказнаму за Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці, на e-mail sakralna@op.pl або па тэлефоне (8 029) 784-05-72.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ БАЦЬКІ АДБУДЗЕЦЦА Ў КАПЦЁЎЦЫ

**Мерапрыемства па традыцыі адзначаецца ў першую нядзелю чэрвеня. У святынях Гродзенскай дыяцэзіі вернікі моляцца за тых, хто даў ім жыццё, а для памерлых бацькаў просяць вечнага шчасця ў небе.**

Сёлетняя ўрачыстасць адбудзецца 3 чэрвеня ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі. У гэты дзень туды вырушыць пешая пілігрымка з Гродна. Да ўдзелу запрашаюцца бацькі, а таксама ўсе мужчыны, каб прасіць у Панны Марыі ласкаў для сваіх сем'яў.

**Праграма:**
7.00 – св. Імша ў касцёле Маці Божай Анёльскай;
8.00 – выхад пілігрымаў;
12.00 – прывітанне пілігрымкі кусташам санктуарыя ў Капцёўцы;
12.00 – 13.00 – гарбата, адпачынак;
13.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці;
13.15 – канферэнцыя для бацькаў, мужчын;
14.00 – Крыжовы шлях;
15.00 – св. Імша за бацькаў (жывых і памерлых);
16.30 – ад'езд аўтобусам у Гродна.

### ДЫЯКАН АНДРЭЙ КАЎШУК АТРЫМАЕ ПРЭЗБІТЭРСКАЕ ПАСВЯЧЭННЕ

**Яго ўдзеліць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Урачыстасць адбудзецца 9 чэрвеня ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. Пачатак св. Імшы ў 12.00.**

Дыякан Андрэй Каўшук нарадзіўся 16 лютага 1986 года. Паходзіць з парафіі Найсвяцейшай Тройцы і св. Францішка Асізскага ў Свіслачы (дэканат Вялікая Бераставіца). У роднай парафіі 10 чэрвеня ў 10.00 новапрэзбітэр узначаліць прымiцыйную св. Імшу.

### ПАРАФІЯДА ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ Ў 10-ТЫ РАЗ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства пад дэвізам "Жыць Евангеллем" будзе праходзіць 18–21 чэрвеня на тэрыторыі гродзенскіх парафій Беззаганнага Зачацця НПМ (мікраraён Паўднёвы) і Найсвяцейшага Адкупіцеля (мікраraён Дзевятоўка), а таксама на стадыёне ЦСК "Нёман".**

**Умовы ўдзелу:**
- узрост удзельнікаў – ад 10-ці да 19-ці гадоў (катэгорыя "А" – 2005-2008 г. н., катэгорыя "В" – 2002-2004 г. н., катэгорыя "С" – 1999-2001 г. н.);
- кошт удзелу – 3 руб. (існуе магчымасць вызвалення ад аплаты);
- з сабой неабходна мець аформленую медыцынскую карту ўдзельніка Парафіяды з ксеракопіяй пашпарта (31–33 с.);
- максімальная колькасць удзельнікаў ад адной парафіі – 15 чалавек + апякун.

*Пацвердзіць удзел у Парафіядзе неабходна да 1 чэрвеня па тэлефоне: (8 033) 624-35-22 або (8 029) 319-54-56, кс. Артур. Спіс удзельнікаў Парафіяды неабходна даслаць да 15 чэрвеня на электронны адрас a-malafei@mail.ru. Да ўдзелу запрашаецца моладзь з усёй Беларусі.*

### РАДА ПА СПРАВАХ СЯМ'І ПРЫ ККББ ЗАПРАШАЕ НА КУРСЫ-РЭКАЛЕКЦЫІ

**Яны пройдуць 22–27 чэрвеня ў Навагрудку (вул. 1 Мая, 26).**

Падчас сустрэчы ўдзельнікі змогуць паглыбіць свае веды адносна пытанняў веры, сямейнага жыцця, спосабаў будавання добрых стасункаў у сужэнстве. Кожны ўдзельнік мае магчымасць задаць хвалюючыя пытанні падчас адмысловага пункту праграмы "100 пытанняў да...". Удзел у курсах-рэкалекцыях могуць прыняць усе заціўленыя і асабліва тыя, хто рыхтуецца стаць або ўжо працуе кансультантам сямейнага жыцця.

*Запіс да 15 чэрвеня па тэлефоне (8 029) 588-42-73 або праз электронную пошту meleshko_irina@mail.ru (Ірына Мялешка).*

## Каляндар падзей

***14 мая***
*Свята св. апостала Мацея.*

***20 мая***
*Урачыстасць Спаслання Святога Духа. Заканчэнне Велікоднага перыяду.*

***21 мая***
*Свята Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Касцёла.*

***23 мая***
*27-ая гадавіна біскупскіх пасвячэнняў пастыра дыяцэзіі. Молімся ў інтэнцыі ксяндза біскупа Аляксандра Кашкевіча і яго плённай апостальскай паслугі ў нашай дыяцэзіі.*

***24 мая***
*Свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Май***
*Каб пастырам Гродзенскага Касцёла Пан Бог удзяляў неабходную дапамогу ў службе Божаму люду дыяцэзіі.*




## Чаму св. Камунія такая важная для католікаў?



У маі, а часам і ў чэрвені шмат дзяцей перажываюць самы важны момант у іх рэлігійным жыцці – дзень Першай св. Камуніі. Тады яны ўпершыню прымаюць у свае маленькія сэрцы Пана Езуса, “схаванага” ў белай Гостыі.

Першая св. Камунія лічыцца адным з самых важных сакрамантаў у хрысціянстве. Паводле Святога Пісання, сакрамант Эўхарыстыі – гэта памятка Апошняй Вячэры, калі Езус Хрыстус прынёс падзяку Богу, свайму Айцу. Сімвалам гэтай падзеі стала св. Камунія, якая з’яўляецца неад’емнай часткай кожнай хрысціянскай літургіі. Прыступаючы да сакраманту Эўхарыстыі, католікі паказваюць, што яны вераць у смерць і ўваскрасенне Божага Сына, які памёр і ўваскрос з мёртвых, каб адкупіць грахі чалавецтва. Слова “Эўхарыстыя” паходзіць ад грэц. “eucharystia”, што азначае “падзяка”, а слова “камунія” – ад лац. “communio”, або “супольнасць”.

“Калі б анёлы маглі зайздросціць, яны зайздросцілі б нам у прыняцці св. Камуніі, у якой Бог цесна звязаны са сваім стварэннем. У такую цесную сувязь Ён не ўваходзіць нават з анёламі” (Дз 1804), – пісала св. Фаўстына Кавальская. Эўхарыстыя асвятляе чалавечую душу. Мы павінны добра рыхтавацца і прыступаць да сакраманту з радасцю. Пра гэта нагадвае апавяданне Фабіо Розі “Крама святла”.

**Аднойчы вельмі скупы чалавек вырашыў купіць трошкі святла, каб асвятліць сваё жыццё. Пайшоў ён у краму, дзе былі ўсе агні свету, і сказаў прадаўцу: “Я хачу купіць святло. Але хачу заплаціць максімум 10 капеек”. Прадавец адказаў: “Добра. За 10 капеек я магу прадаць табе адну запалку. Яе святло мае прыгожы колер, але будзе доўжыцца ўсяго некалькі секунд”. Скупы чалавек узяў запалку і паплёўся назад сумны.**

**Неўзабаве пасля гэтага міма праходзіла вельмі прыгожая дзяўчына, якая таксама жадала купіць святло. Яна звярнулася да прадаўца: “Мне патрэбна святло, якое б асвятляла мой шлях. Магу патраціць 1 рубель, таму што іншыя грошы патрэбны для маёй прыгажосці”. Прадавец сказаў: “За 1 рубель дам табе свечку. Яна будзе асвятляць твае крокі, але гэта будзе доўжыцца ўсяго некалькі хвілін”. Дзяўчына ўзяла свечку і пайшла, таксама сумная.**

**Купіць святло захацела і адна вельмі разумная старая. “Прадавец, я дам табе 10 рублёў. Так змагу мець святло, якое пратрымаецца значна даўжэй, чым у дваіх іншых пакупнікоў”, – сказала яна. “Маеш рацыю, – адказаў прадавец. – За 10 рублёў прапаную табе факел. Ён больш моцны, чым запалка альбо свечка. Але памятай, што яго святло доўжыцца ўсяго некалькі гадзін”. Старая жанчына ўзяла факел. Аднак і яна пайшла прэч несуцешаная.**

**Мець жыццё, поўнае святла, хацеў і вельмі багаты хлопец. “Прадавец, я не супраць выдаткаў. Дам табе 100 рублёў за маё святло”, – сказаў ён. Прадавец даставў пышную люстру і сказаў: “Мой сябар, за 100 рублёў ты можаш мець гэта. Напэўна, гэта люстра будзе асвятляць цябе і твой дом на працягу доўгага часу. Але яе лямпачка зможа гарэць толькі на працягу некалькіх дзён”. Багаты хлопец узяў лямпу і пайшоў прэч сумны, як і ўсе астатнія.**

**Пасля там праходзіў хлопчык, які рыхтаваўся да прыняцця Першай св. Камуніі. Ён увайшоў у краму і сказаў: “Я хачу атрымаць святло, якое б асвятляла мяне. Але не маю грошай, каб даць табе. У мяне ёсць толькі сэрца, і я буду рады ахвяраваць яго, каб атрымаць гэтае святло”. Прадавец адказаў: “Ты самы добры і мудры чалавек з усіх тых, хто завітваў у маю краму. Дзякуючы твайму сэрцу, можаш бясплатна атрымаць святло, якое гарыць на працягу ўсяго жыцця. Гэтае святло – Езус”. Хлопчык узяў Хрыста за руку і пайшоў шчаслівы, каб прыняць Першую св. Камунію.**

Няхай душа кожнага з Вас млее па Богу, прагнучы як мага хутчэй з’яднацца з Ім у Эўхарыстыі!

**Заданне:** **падрыхтуйся да прыняцця св. Камуніі ўважліва, зрабіўшы добры рахунак сумлення і прыняўшы канкрэтныя пастановы.**

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

**Чакаем Тваіх “чаму”, якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі. На пытанні заўсёды гатовыя адказаць сёстры салезіянкі са Смаргоні.**

## Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**
з нагоды Імянін перасылаю мноства сардэчных пажаданняў: усіх Божых ласкаў, сталай апекі Маці Божай, мноства сіл, цярплівасці, нястомнага запалу ў пастырскай паслузе і моцнага здароўя.
*С. Ірэна Златкоўская, генеральная настаяцельніца Супольнасці сясцёр дапаможніц чыстцовым душам*

**Паважанай Сястры Веранікі Блізнюк**
з нагоды Дня нараджэння складаем букет сардэчных пажаданняў, спалучаных з малітвай. Жадаем, каб Маці Божая апекавалася Вамі штодня, была побач у нялёгкія хвіліны, а Святы Дух узбагачаў дарамі душу, каб маглі і далей несці людзям свет Хрыстовага Евангелля. Вельмі ўдзячныя Вам за ўвагу да нашых маленькіх чытачоў. Аддзяч, Божа!
*Рэдакцыя “Слова Жыцця”*

**Паважанай Сястры Ядзвізе Мяцеліцы**
з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем Божага бласлаўлення. Няхай кожны дзень жыцця будзе напоўнены здароўем, шчасцем і радасцю. Няхай Святы Дух асвячае і вядзе Вас па Божых сцежках, а Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі.
*Вернікі з парафіі Грандзічы*

**Паважаны Ксёндз Валерый Спірыдон!**
З нагоды Дня нараджэння жадаем Вам моцнага здароўя, радасці, шчасця. Прагнем выказаць таксама словы ўдзячнасці. Як хораша становіцца на сэрцы, калі збіраемся разам у касцёле на Імшы. Вы заўсёды сустракаеце нас добразычлівым позіркам. Нізкі паклон за культуру, шчырасць і сардэчнасць, за тое, што даступна тлумачыце Божае слова, якое робіць нас больш добрымі і міласэрнымі. Узносім да Пана малітвы і дзякуем за такога адукаванага, разумнага і сумленнага святара. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае сваім святлом кожны дзень жыцця, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, добры Бог адорвае ўсімі ласкамі, а святы Заступнік нястомна моліцца за Вас перад Божым алтаром.
*З павагай, Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла ў Рандзілаўшчыне*

**Паважанаму Айцу Аляксандру Сушынскаму**
з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік нястомна апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае над Вамі і дапамагае годна перажываць кожны дзень.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Германішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу**
з нагоды Імянін складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень праходзіць у радасці, сілы і запал да абвяшчэння Божага слова ніколі не пакідаюць, а побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі. Няхай Бог штодзённа адорвае Вас усімі сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Крамяніца*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Дзмітрый Урбановіч!**
З нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем Вам шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цяплом, радасцю, дабрынёй, любоўю і надзеяй, вера з кожным днём толькі ўзмацняецца, а ўсё запланаванае рэалізуецца з дапамогай Бога і добрых людзей. Няхай душпастырская паслуга прыносіць шчодры плён, а наша малітва будзе для Вас падтрымкай у складаныя моманты.
*З павагай, Легіён Марыі і Ружанцовае кола з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні.
Гарачыя малітвы
да алтара ўзносім.
У Пана Бога ласкаў для Вас
мы шчодрых просім.
Каб жылі спакойна
на гэтай даліне,
І доўга працавалі
на Гасподняй ніве.
Каб, колькі зорак у небе
Пан для нас стварыў,
Столькі ж шчасця і здароўя
Ён Вам падарыў.
*Касцёльны камітэт, удзячныя парафіяне, дзеці і моладзь, Жамыслаўль*

**Паважаны Айцец Пробашч Андрэй Агель!**
У Ваш Дзень нараджэння жадаем радасці, моцнага здароўя, сіл і стойкасці ў складанай душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае Вас мацярынскай любоўю і апекай, а таксама выпрошвае ў свайго Сына неабходныя ласкі. Дзякуем за мудрыя думкі, прыгожы прыклад веры, ахвярную працу і зычлівасць.
*З павагай і малітвай, вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанаму Айцу Станіславу Садоўскаму**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог дадае Вам моцы, Дух Святы надзяляе мудрасцю і спакоем, Езус служыць прыкладам на святарскім шляху, а Маці Божая заўсёды засцерагае. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці, мужнасці, добрых і спагадлівых вернікаў.
*Рыцарства Беззаганнай і Адарацыйнае кола з парафіі МБ Анёльскай у Гродне*

**Дарагі Ксёндз Юрый Садоўскі!**
Прыміце нашы цёплыя і шчырыя словы:
У Дзень нараджэння хай Пан
спашле Вам ласкі.
У пакліканні ўзмацняе,
бароніць, калі трэба,
І простай, вернай сцежкай
Вас вядзе да Неба.
Сваім святарскім сэрцам
спявайце Яму ў падзяку:
За службу для Хрыста,
за вялікую адзнаку.
А мы Вам сёння
шчыра ўсміхаемся
І разам з пажаданнямі
малітвы Богу ўзносім.
*Удзячныя сем’і з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Урбану**
з нагоды Дня нараджэння прагнем скласці сардэчныя пажаданні: Божага бласлаўлення і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Бог ахінае Вас сваімі ласкамі, моцай і сілай, а таксама асвячае кожны дзень жыцця. Жадаем таксама спазнаваць зычлівасць і любоў ад кожнага сустрэтага на жыццёвым шляху чалавека.
*Удзячныя вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанай Сястры Веранікі Блізнюк**
з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні: Божага бласлаўлення, патрэбных ласкаў, дароў Святога Духа, здароўя, прыгожага і шчодрага плёну ў паслузе. Няхай добры Бог, якому Вы даверылі свой жыццёвы шлях, бласлаўляе кожны дзень, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды. Дзякуем за чулае сэрца і клопат пра наш дзіцячы хор і малітоўную групу ADMA.
*Моладзь, дзеці, закрыстыянін Здзіслаў і парафіяне са Смаргоні*

**Шаноўнай Спадарыні Галіне Мазурчык,**
актыўнай парафіянцы, якая працуе ў касцёле ў Каробчыцах, з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, энергіі, людской зычлівасці і непахіснай веры. Дзякуем за аптымізм, добрае сэрца, чуласць, велікадушнасць, увагу і цяпло, якімі адорваеш нас і ўсіх навокал! Дзякуем Богу за тое, што Ты з намі. Няхай Маці Божая дадае Табе сіл і цярплівасці, а Святы Дух адорвае сваімі ласкамі.
*Сем’і Шыраевых і Мазурчыкаў*

**Паважанаму Айцу Станіславу Садоўскаму**
з нагоды Імянін, Дня нараджэння і чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем моц сардэчных пажаданняў. Няхай Хрыстос, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае любоўю і апекай, а Дух Святы нястомна адорвае сваімі дарамі. Моцнага здароўя, шчасця, радасці, усмешкі і доўгіх гадоў жыцця.
*З павагай, былыя парафіяне з Поразава*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Абухоўскаму**
з нагоды Імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя, радасці, шчасця, добрых і справядлівых людзей побач, шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Пан Езус у сваёй міласэрнасці заўсёды чувае над Вамі і будзе Вашым Сябрам, дары Святога Духа асвячаюць жыццёвы і святарскі шлях, а святы Заступнік і Анёл-ахоўнік абараняюць у кожную хвіліну дня і ночы.
*Парафіяльнай рада і вернікі з парафіі Сапоцкін, сям’я Касцюшка*

**Паважанаму Ксяндзу Станіславу Пытэлю**
з нагоды Імянін шчыра жадаем здароўя, мноства Божых ласкаў, радасці, шчасця, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай радасць і супакой жывуць у Вашым сэрцы і заўсёды хапае людской добразычлівасці. Шчасці Божа!
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Васілішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Станіславу Лабану**
з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе шчаслівым і бласлаўлёным, а праца на ніве Пана прыносіць багаты плён. Шчасці Божа!
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Беняконі*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**
з нагоды 12-годдзя святарства перасылаем сардэчныя пажаданні. У малітвах просім, каб міласэрны Бог узнагародзіў Вас моцным здароўем, сілай, стойкасцю, нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Найсвяцейшая Маці атуліць Вас і Вашых родных, а Святы Дух асвеціць жыццёвую дарогу. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітву, цярплівасць да нас. Жадаем шчасця і як мага больш радасных хвілін у гэты цудоўны дзень і на працягу ўсяго жыцця!
*З павагай і малітвай, вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Грыцко**
з нагоды 15-годдзя святарскай паслугі перасылаем сардэчныя віншаванні. Няхай Ваша служба Богу і людзям будзе плённай, шчырай і бласлаўлёнай. Жадаем здароўя, доўгіх гадоў жыцця, добразычлівых людзей побач. Шчыра дзякуем за добрае сэрца, навуку і радасць веры, якой дзеліцеся з намі.
*Парафіяне з касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Першамайскім і вернікі з капліцы Божай Міласэрнасці ў Хадзілонях*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Грыцко**
з нагоды 15-ай гадавіны святарства перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай штодзённыя жыццёвыя намаганні Вас акрыляюць і дапамагаюць заўважаць прыгажосць жыцця. Няхай Маці Божая заўсёды трымае Вас у сваей апецы, адорвае ўсімі неабходнымі ласкамі і падтрымлівае ў цяжкасцях, а міласэрны Езус кожны дзень прытуляе да свайго сэрца і бласлаўляе на добрыя ўчынкі.
*Апостальства “Маргарытка”, Астрына*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. (**8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2519; тыраж 5240; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная